

# Залеская талака

Інфармацыйны бюлетэнь Залескага сацыяльна-дзелавога цэнтра ГА "Сяльчанка" Смаргонскага рна/№4(32) чэрвень-ліпень 2014

## Мир детства

«Дети - наше будущее». Мы часто повторяем эту фразу и возлагаем большие надежды на своих деток. Мечтаем видеть их красивыми, здоровыми, развитыми. Это в наших силах! И от того насколько прочным будет заложен родителями фундамент детского здоровья, зависит самодостаточность и благополучие ребенка. Что нужно для детского здоровья? Любовь родителей, хорошее питание, игры на свежем воздухе.

Каждый взрослый может вспомнить веселые и беззаботные часы, проведенные в детстве на игровой площадке. Сколько увлекательных игр там было! Для ребенка детская площадка - маленький мир, где он учится общаться, находить друзей и воплощать свои мечты в реальность... А для взрослых детские игровые площадки - своего рода клуб на открытом воздухе: пока беззаботное чадо возится с песком и съезжает с горок, папы и мамы могут почитать, пообщаться, а то и просто подремать.

31 мая, в канун празднования Дня защиты детей, в агрогородке Залесье впервые за много лет была открыта новая детская площадка. Собралось



около пятидесяти человек - мамы и папы, бабушки и дедушки погрузились вместе с детьми в мир игр и развлечений! На праздник были приглашены клоуны из города Сморгонь, а учащиеся Залесской школы-сада пели, танцевали, читали стихи...

**Вероника Щуровская, руководитель первичной организации ОО «Сельчанка» Сморгонского района**

## Няхай жыве Залессе!

13 чэрвеня ў Залессі на Смаргоншчыне адбылася цікавая імпрэза: у адноўленай канцэртнай зале маёнтка Міхала Клеафаса Агінскага прайшла літаратурна-музычная вечарына “Няхай жыве Залессе!”

У 2013 годзе пярвічная арганізацыя ГА “Сяльчанка” Смаргонскага раёна выйграла праект па вывучэнні польскай мовы. Усе жадаючыя сябры грамадскай арганізацыі і проста жыхары Залесся мелі магчымасць вывучаць мову краіны-суседкі бясплатна. Навучальны курс доўжыўся сем месяцаў. З вучнямі розных узростаў і прафесій працавала цудоўная выкладчыца — настаўніца вышэйшай катэгорыі Таццяна Іванаўна Кляшчонак.

Штотыдзень па нядзелях – у любое надвор’е! – спадарыня Таццяна прыязджала ў наша Залессе з Ашмянскага раёна.





Яна распавядала залескім “студэнтам” не толькі пра моўныя цяжкасці, але і пра культуру, літаратуру, геаграфію Польшчы. Новыя веды і веданне замежных моваў узбагачаюць любога чалавека. Думаецца, што і вершы Адама Міцкевіча, і музыка Чэслава Немэна, і размоўная польская мова жыхарам Залесся не зашкодзіць!

Курс навучання скончыўся, і сумесна з музычнымі калектывамі Смаргонскай дзіцячай школы мастацтваў імя М.К. Агінскага слухачы курсаў падрыхтавалі ўрачыстую выпускную вечарыну польскай культуры. Імпрэза пад назвай “Няхай жыве Залессе!” зацікавіла патэнцыйных гледачоў – усе квіткі былі хутка прададзены. Узнёсла-эмацыйны настрой усяму мерапрыемству надало выступленне добра вядомага на Смаргоншчыне калектыва юных музыкаў пад кіраўніцтвам Чэслава Жыха.

Перад гледачамі і навучэнцамі курсаў з прамовай выступіла натхняльніца курсаў і дырэктар Смаргонскага мясцовага дабрачыннага фонда “Паўночныя Афіны М. К. Агінскага” А. М. Шыцікава і ўручыла “студэнтам” пасведчанні пра наведванне курсаў польскай мовы.

Т. І. Кляшчонак у сваю чаргу падарыла ім сваю кнігу



"Нашчадкі Міхала Клеафаса Агінскага", выдадзеную невялічкім накладам на беларускай мове.

Плануецца выданне кнігі на некалькіх мовах (беларускай, польскай і рускай). Ад імя "студэнтаў-паланістаў" выступіла Тамара Ліс, выказаўшы словы падзякі і Але Шыцікавай, і Таццяне Кляшчонак за магчымасць атрымаць новыя веды, а значыць, стаць больш духоўна багатымі і цікавымі людзьмі. Нездарма ж кажуць: чым больш ты ведаеш моваў, тым больш ты – чалавек!

Студэнты разам са сваёй выкладчыцай спявалі песні і чыталі вершы на польскай мове. Адначасова з гэтым далі танцавальны майстар-клас і правялі віртуальную экскурсію па сталіцах Польшчы ды мясцінах, звязаных з жыццём кампазітара М.К. Агінскага… З вяртаннем на Радзіму – у шыкоўна аднаўлены літаратурна-музычны салон кампазітара, палітыка і паўстанца!





Развітальнае слова ад імя мясцовых жыхароў — з пажаданнем і надалей вывучаць замежныя мовы, мовы краін-суседзяў і нашу сумесную гісторыю! — прагучала з вуснаў П. Ул. Южыка, старшыні праўлення Смаргонскага мясцовага дабрачыннага фонда "Паўночныя Афіны М. К. Агінскага".

Чэрвеньскі вечар у палацы праляцеў вельмі хутка… Да сустрэчы ў Паўночных Афінах!

**Дар'я Ліс**

## Моўная размінка

Рана ці позна ўсё заканчваецца – скончыўся і курс вывучэння польскай мовы ў Залессі. Пра ўражанні ад заняткаў мы распыталі выкладчыцу Таццяну Іванаўну Кляшчонак, а таксама - актыўных мясцовых "студэнтаў-паланістаў". І вось што пачулі…

**Т. Кляшчонак:** "Нам было па-сапраўднаму добра разам на курсах. У залесцаў прачнуўся нейкі асаблівы патрыятызм… А я неяк падумала, з чаго можна было б прадоўжыць навучанне, калі б пільна было трэба. І вырашыла, што пачаць трэба было б з высвятлення ўнутраных, душэўных адрозненняў паляка ад беларуса, бо нам, асвоіўшы граматыку, здаецца, што палякі - такія ж, як мы… Толькі вясёлыя прымаўкі папрыдумлялі ды да бунту скорыя Не, гэта асобны народ, і трэба даць сабе справаздачу, чым жа ён адрозніваецца ад іншых. Тут будуць дарэчы і "выцяжкі" з польскага кіно, мастацтва, літаратуры, гісторыі. У граматыцы - паглыбленне ў тое, што ўжо ўзялі зверху, і ў тое, чаго не паспелі ўзяць…"






Залескія "студэнты-паланісты" не былі арыгінальныя ў сваіх выказваннях. "Добра, але мала!" – такі вынік апытання. Самыя актыўныя наведвальнікі курсаў польскай мовы хацелі б удасканаліць свае веды, а хтосьці жадае і другую замежную мову павучыць. Некаторыя навучэнцы заўважылі: па нядзелях ім будзе сумнавата без разумовай гімнастыкі, якой былі курсы… І гэта насамрэч так: вывучэнне замежнай мовы – адзін з найлепшых сродкаў падтрымання ў тонусе разумовых здольнасцей чалавека, прычым чалавека любога ўзросту. Хочацца верыць, што жыхары Залесся ў будучыні змогуць паўдзельнічаць у новых цікавых культурніцкіх праектах, а хтосьці адважыцца і сам вывучаць замежныя мовы.

**Рэдакцыя бюлетэня "Залеская талака"**

Заснавальнік ГА "Сяльчанка" Смаргонскага р-на / адрас:в.Залессе, вул. Чыгуначная. Гал. рэдактар Дар'я Ліс, тэл. для сувязі +375296553013 www.zalesse.by
250 асобнікаў, распаўсюджваецца бясплатна.